 



# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

### Аб рашэньні Дзяржаўнай Думы Расейскай Фэдэрацыі

## Заява

Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне» як грамадзка-палітычны рух, які грунтуецца на традыцыйных каштоўнасьцях грамадзтва, нацыі і дзяржавы, заўсёды падтрымлівае ідэі і дзеяньні, накіраваныя на ўмацаваньне свабоды, дэмакратыі і дзяржаўнай незалежнасьці народаў.

Пастанову Дзяржаўнай Думы Расеі аб дэнансацыі Белавежскіх пагадненьняў можна б было вітаць, паколькі яна сьведчыць аб радыкальным выхадзе Расеі з СНД і зьняцьці з сябе ўсіх абумоўленых белавежскім дагаворам аб стварэньні СНД намераў і абавязацельстваў. СНД была неабходная Расеі і задуманая як новая форма і сродак рэанімацыі «Расейскай імперыі», дакладней, як сродак дамінаваньня Расеі на абшарах былога СССР. Гэта добра пацьвердзіла гісторыя адносінаў у СНД, якія разьвіваліся пасьля 1991 г. Не сумняваемся, што краіны, якія ўваходзяць у СНД, узьдыхнулі б з палёгкай, калі б гэты крок расейскай Думы быў прадыктаваны высакароднымі мэтамі свабоды і дэмакратыі. На жаль, ён прадыктаваны іншымі мэтамі - жаданьнем аднавіць Савецкі Саюз. Гэта гаворыць, па-першае, пра адсутнасьць рэальнага бачаньня жыцьця ў большасьці дэпутатаў ніжняй палаты расейскага парламанту, па-другое, як ні парадаксальна, пра'даволі цьмянае разуменьне імі юрыдычных вынікаў свайго рашэньня (выхад Расеі з СНД). Складваецца ўражаньне, што дэпутаты расейскай Думы дрэнна знаёмыя са зьместам Белавежскіх пагадненьняў і прастадушна меркавалі, што з дэнансацыяй іх адным з суб'ектаў дагавору аўтаматычна вяртаецца Савецкі Саюз. У выніку атрымаўся канфуз.

Вартая жалю такая палітыка. Ініцыятарамі яе ў Расеі, як і паўсюдна ў краінах СНД, зьяўляюцца камуністы, а рэальнай прычынай - прага аваладаньня ўладай: набліжаюцца прэзідэнцкія выбары ў Расеі. На авантурную ініцыятыву Б.Ельцына і А.Лукашэнкі аб канфедэрацыі Расеі з Беларусьсю камуністы адказалі яшчэ большай авантурай - вярнуць СССР. Усё гэта -перадвыбарчыя палітычныя гульні ў стылі разнузданага папулізму. Аднак гэта небясьпечныя гульні. Бо нельга гуляць з народам.

Мы зьвяртаем увагу ўсіх незалежніцкіх, вызваленчых, дэмакратычных сілаў Беларусі на небясьпечнасьць для нашай нацыі і дзяржавы палітычных працэсаў, што адбываюцца у Расеі, на агульную імпэрыялістычную, антыдэмакратычную скіраванасьць там палітычных сілаў і груповак, на безадказнасьць і неперабор лівасьць у мэтадах, на агрэсіўнасьць камуністычных і пракамуністычных арганізацыяў. Мы павінны мацаваць суверэнітэт Беларусі так, як мацуюць усе іншыя краіны. Умацоўваць законнасьць і дэмакратыю, не дазволіць аўтарытарнаму, пракамуністычнаму, прарасейскаму рэжыму А.Лукашэнкі разбурыць асновы нашай дзяржаўнасьці, Канстытуцыі, права і незалежнасьці.

**Зянон Пазьняк,**
**старшыня Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне»**
**Лявон Баршчэўскі,**
**старшыня Камісіі па замежных справах Сойму БНФ**

---

Вітаю Вас, Вашых супрацоўнікаў і ўсіх чытачоў газеты «ПАГОНЯ» з 78-мі ўгодкамі абвешчаньня Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі вэкапомным Актам 25 Сакавіка 1918 году і жадаю ўсім вам посьпеху ў працы па замацаваньню новаабвешчанай незалежнасьці Рэспублікі Беларусь!

Перажыўшы доўгагадовую маскоўскую няволю, беларускі народ аб'явіў ізноў свой дзяржаўны Суверэнітэт у 1990 годзе. Аднак ворагі нацыянальнай свабоды беларускага народу, як выглядае, аніяк ня хочуць пагадзіцца з ідэяй незалежнасьці Рэспублікі Беларусь і ўсьцяж намагаюцца ізноў уцягнуць Беларусь у «расейскую турму народаў». Але мы ёсьць упэўненыя, што ідэя незалежнасьці Беларусі была і ёсьць непераможнай, а таксама, што Незалежная Беларусь жыве і будзе жыць, для пацехі і на карысьць усіх будучых пакаленьняў беларускага народу!

Жыве Вольная і Незалежная Беларусь!

З павагай,

**Алесь АЛЕХНІК,**
**генеральны сакратар Беларускай Асацыяцыі Аўстраліі.**

---

**ГЕНАДЗЬ КАРПЕНКА:**

## «ДАВЫБАРЫ ДЭПУТАТАЎ АДБУДУЦЦА ЎВОСЕНЬ»

**За апошнія два гады прадпрыемствы беларускай прамысловасьці зьнізілі аб'ёмы вытворчасьці на 62-80 працэнтаў. Сельская гаспадарка - на 36-40 працэнтаў. Беларуская эканоміка ў страшным заняпадзе. Распрацаваны ўрадам прагноз эканамічнага разьвіцьця краіны на 1996 год праваліўся адразу пасьля свайго зьяўленьня на сьвет. У студзені бюджэт краіны недаатрымаў 23% ад запланаванай сумы прыбыткаў, у лютым - 34%. Гэта азначае фактычнае разбурэньне сацыяльнай і бюджэтнай сьфераў у краіне. Пад пагрозай далейшая выплата грошай настаўнікам, медыкам, навукоўцам. Пра гэта 19 сакавіка ў сваім выступе перад дэпутатамі гарадзенскага абласнога Савету паведаміў намесьнік старшыні беларускага парламанту Генадзь Карпенка.**



У перапынку працы сесіі з ім сустрэўся карэспандэнт «ПАГОНІ», якога цікавіў лёс мясцовых Саветаў у такой сітуацыі.

*- Спадар Карпенка, у гарадзенскі абласны Савет абрана крыху больш паловы дэпутатаў ад неабходнай колькасьці. Такая ж сітуацыя ў многіх іншых мясцовых ворганах заканадаўчай улады. І тым ня менш, новаабраныя дэпутаты, згодна рашэньня Вярхоўнага Савету, пачынаюць сваю працу. Ці не азначае гэта, што давыбары дэпутатаў праводзіцца ня будуць?*

- Сітуацыя выглядае наступным чынам. Згодна з законам, выбары праводзяцца не раней як праз 90 дзён з часу абвяшчэньня. Мы палічылі, што калі абвясьціць іх зараз, то выбары прыдзецца праводзіць летам. Вопыт мінулагодніх выбарчых кампаній сьведчыць, што ўсе папярэднія летнія выбары скончаліся безвынікова.

Каб заканадаўчая галіна ўсё ж дзейнічала, парламант даў магчымасьць працаваць мясцовым Саветам там, дзе ў іх склад абрана больш паловы ад неабходнай колькасьці дэпутатаў. Ну а давыбары дэпутатаў плануецца правесьці ўвосень.

**Вітаўт РУДНІК.**

---

## ПРАПАНОВА, АД ЯКОЙ НЕЛЬГА АДМОВІЦЦА

**Прэзідэнцкія выбары ў Расеі прысьпешваюць падзеі, якія адбываюцца ў гэтай краіне. Яшчэ год таму так званая інтэграцыя лагодна вызравала ў ня вельмі спрыяльным клімаце сярэднярускіх раўнін. Аднак пасярод марознай зімы 96-га году плод раптоўна дасягнуў кандыцыі сьпеласьці і маніць спакусьлівых крамлёўскіх уладалюбцаў. Вядома, што заўчаснае жніво тычыцца і беларускай нівы, бадай, самай угноенай інтэграцыйным навозам на абшарах былога СССР.**

Наша газета ўжо пісала пра лютаўскую зьдзелку Ельцын-Лукашэнка коштам адзін мільярд рублёў, названую ў афіцыйных колах «нулявым варыянтам» і сьведчаньнем растучага аўтарытэту прэзідэнта Лукашэнкі, які нібыта на ўзаемавыгадных падставах пагасіў зьнешні доўг за энерганосьбіты. Паколькі ў той час было відавочна, што гэта толькі пачатак вялікай гульні Расеі пад назвай «узнаўленьне разбураных сувязяў», мы паставілі ў канцы таго артыкулу пытальнік і паабяцалі сачыць за тым, як будуць разгортвацца падзеі далей. Сёньня — працяг гісторыі.

Можа падацца, што пастанова Дзяржаўнай Думы Расеі ад 15 сакавіка аб несапраўднасьці ратыфікацыі Белавежскіх пагадненьняў - самастойная палітычная падзея, інсьпіраваная ці то камуністамі, ці то шавіністамі, ці то звар'яцелымі саўкамі. Можа ўяўляцца, што адмоўная рэакцыя Ельцына на думскія захады - бездакорны адказ дэмакратычнага прэзідэнта Расеі апантаным таталітарным сілам мінуўшчыны і цемрашальным інстынктам сучасных маргіналаў. Усё гэта так, і адначасова — значна складаней.

На сёньняшні момант усё дакладней выяўляецца падыход да інтэграцыі Ельцына: дамаўляцца з правячымі элітамі былых саюзных рэспублік, не крануць іх прывілеяў і ладу жыцьця, тым больш, на пільны кантроль у Расеі няма сілаў. Выявіўся таксама падыход апазіцыі: стварыць агульныя спрыяльныя ўмовы да ўзнаўленьня савецкіх дачыненьняў. Ельцынскі падыход характарызуецца рэалізмам, разьлічаным на паступовы рух маленькімі крокамі да стварэньня якасна іншых сувязяў. Думскі шлях адкрывае магчымасьці дэстбілізацыі і расколу грамадзтва ў былых рэспубліках, паколькі стварае нелегітымнае поле дзейнасьці з утапічным лозунгам «час - назад!»

Уявімім, Дума здолела адстаяць сваю Пастанову аб несапраўднасьці распаду СССР. Хто дасьць гарантыю, што дзе-небудзь на Украіне, у Малдове, Арменіі ня зьявіцца авантурыст і не абвесьціць сябе прадстаўніком саюзнай улады, аб'явіць нізложаным урад сваёй краіны, накіруе сваіх прадстаўнікоў у рэгіёны, праведзе прызыў у войска, арганізуе ўласныя выбары? Ніякіх гарантый, наадварот, такі ход падзеяў найбольш верагодны. У выніку Расею і яе 14 сатэлітаў чакае прыемнае жыцьцё, гледзячы на якое, жах ахопіць Ірландзкую Рэспубліканскую Армію, курдаў, усе народы Балканаў і вязьняў апартэіду. Паколькі апазіцыя ня ў стане дамовіцца аб інтэграцыі з кіраўніцтвам рэспублік на здаровай аснове, яна вымушана разыгрываць аб'яднальную карту шляхам правакацый. Дарэчы, нашыя беларускія інтэгратары ўжо пачалі збор подпісаў дзеля аднаўленьня СССР.

З другога боку пан Ельцын - сама саліднасьць і прадказальнасьць. Ніякай базарнасьці, проста паслаў у камандзіроўку свайго міністра Прымакова. А праз колькі дзён паслухалі гэта разыгрываў беларускую карту, гэткі пакт Ельцын-Лукашэнка. На чарзе Назарбаеў. За ім - астатнія. Ня хочаш да Ельцына - пойдзеш да Зюганава і Жырыноўскага. Ня хочаш дабром - атрымаеш свой урад у Данецку...

Такім чынам, якія б шляхі не выбірала Расея, здраднікаў кшталту Хмяльніцкага там ніколі ня будзе. У прыхільнікаў братэрскага сяброўства з Расеяй выбар малы. Альбо капітуляцыя безумоўная, альбо пачэсная. Што тычыцца астатніх, то ім трэба запасацца мужнасьцю гадоў гэтак на 30-50, ня меней.

Лютаўская дамоўленасьць Ельцына і Лукашэнкі, ацэненая аўтарам як зьдзелка, патрабуе ўдакладненьня. Пры ўсім тым, што яе сутнасьць як зьдзелкі не зьмянілася. Трэба зрабіць упор на тое, што іншага выбару Лукашэнка ня меў. Бяруся сьцьвярджаць (уяўна, вядома), што яго папярэдзілі аб планах Думы на 15 сакавіка і прапанавалі не марудзячы часу вызначыцца, з кім ён: з камуністамі і жураўлямі ў небе, сярод якіх пасада прэзідэнта СССР, альбо з Ельцыным і сініцай у руцэ, утрымаць якую - залежыць толькі ад яго самога. Нездарма мне падалося (абсалютна індывідуальна), што Лукашэнка паехаў у Маскву як на закланьне. Палова яго нага прэзідэнцтва хутка міне, а ў зьнешняй палітыцы адныя абломы. У дадатак прыйшлося даказваць саплякам з маскоўскага ўнівэрсітэту, што ён за дэмакратыю, рынак і ўвогуле – ня конюх. Так, хочацца паставіць на камуністаў і выйграць галоўны прыз, аднак і Ельцын дае зразумець, што камуністы ніколі ня вернуцца да ўлады. Ужо, што ён зробіць з тымі, што выступіць супраць, і казаць ня трэба. «Круцізна» Ельцына вядомая.

Адсюль вынікае, што нашаму босу зрабілі прапанову, ад якой нельга адмовіцца. Аднак канчаткова яшчэ ня выйграў ніхто. Таму чакаем далейшага працягу.

**Сяргей САМАСЕЙ.**

---

## "ПЯТАЯ КАЛОНА" НА ЎЗДЫМЕ

**15 сакавіка. Пікет у абарону Канстытуцыі на Савецкай плошчы. Пажылая жанчына з сумкай у руцэ, прабягаючы каля нас, выкрыквае: «Все вы фашисты». Другая чарнявая жанчына з вялікім клункам голасна заявіла: «Все вы поляки, к Польше присоединиться хотите». А мне прама у вочы: «ты ж типичный поляк». Пры спробе высьветліць, чаму яна так лічыць, паступае тлумачэньне: «Я живу здесь с 45-го года». Пажылы мужчына ў зялёным паліто з карычневым футравым каўнерам аб'яўляе ўсіх пікетчыкаў жыда-масонамі. На пытаньне, чаму, адказвае: «Посмотрите, какие у вас черепа».**

Відаць, частка расейцаў да гэтага часу ня можа ўцяміць, што незалежна ад Расейскай імперыі хочуць жыць ня толькі «германскія фашысты», «жыда-масоны» ці «палякі», але і «браткі-беларусы».

Праўда, усё гэта былі яшчэ кветачкі...

Чалавек, які, па яго словах, прыехаў у Горадню з Кобрына, заяўляе: « Раньше я думал, что нужно уничтожить 95% населения Земли, а теперь..., - тут ён паварочваецца ў бок нашага пікету, - ...а теперь считаю, что 97%». Калі яму было сказана, што гэта фашыстоўская ідэалогія, няўжо яму ня сорамна, ён цьвёрда адказвае - «Нет».

Такую ж цьвёрдасьць я сустрэў летась, калі гарадзенская арганізацыя БНФ выставіла пікет у падтрымку дэпутатаў апазіцыі, пратэставаўшых супраць антызаконнага рэферэндуму (тады яшчэ рыхтаваўшагася). Адзін чалавек, з выгляду адстаўны вайсковец, на маё пытаньне - няўжо ён хоча, каб мае дзеці гінулі ў Чачні ці дзенебудзь яшчэ за яго нія інтарэсы - рашуча і без цені сумневу адказаў: «Да, хочу».

Але з вяршыняй імперскай нагласьці давялося сустрэцца ўсё ж такі 15 сакавіка гэтага году. Невысокі чарнявы чалавек падыходзіць да пікету і гаворыць: «Белорусы - это быдло. Когда Жириновский придёт к власти, вы у нас будете асфальт под ногами лизать». А ў адказ таго, што ён нас не баіцца, называе сваё прозьвішча - «Смирнов Валерий» - і дадае, што жыве ў доме над магазінам «Дом адзеньня», што на Савецкай плошчы.

Мы яго біць ня сталі. Пакуль. Але справа няў гэтым. Справа ў тым, што за апошнія год-два частка мігрантаў з Усходу ператварылася ў актыўных носьбітаў імперскай ідэалогіі і стала тыповай фашыстоўскай навалачу. Нармальных слоў яны ўжо не разумеюць.

**Алесь АСТРОЎСКІ.**

---

## «...ДА ІНІЦЫЯТЫВАЎ ПАРТЫІ НАРОДНАЙ ЗГОДЫ СТАЎЛЮСЯ АБЫЯКАВА»

Каментуючы нашаму карэспандэнту ініцыятыву гарадзенскай філіі партыі Народнай Згоды аб стварэньні Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Партыі, адзін з былых кіраўнікоў ПНЗ, а зараз намесьнік сьпікера Вярхоўнага Савету Генадзь Карпенка адказаў:

*- Пасьля таго, як частка сяброў Выканкаму партыі замест палітыкі пачала займацца палітыканствам, я выйшаў з партыі. Думаю, што і гэтыя гульні з аб'яднаньнем людзей часам супрацьлеглых палітычных поглядаў у нейкую новую партыю наўрад ці прынясуць што-небудзь станоўчае. А ўвогуле, да ініцыятываў ПНЗ я сёньня стаўлюся абыякава.*

## ЦІ СТАНЕ ХЛЕБ СМАЧНЕЙШЫМ?

**Якой якасьці хлеб мы спажываем? На жаль, не заўсёды добрай. Гэта высьветліла праверка, зьдзейсьненая напрыканцы лютага сябрамі абласнога таварыства аховы правоў спажыўцоў на чале са старшынём камітэту па барацьбе з карупцыяй гарадзенскай рады БНФ Рыгорам Фарманянам.**

20 лютага ў краме N 1 «Цэнтральная» па вуліцы Стэфана Баторыя,6 яны ўзялі на пробу тры віды завезенага сюды хлеба. Праверка на яго якасьць праводзілася ў лабараторыі лідзкага цэнтру стандартызацыі метралогіі і высьветліла, што ў хлебе «Прыдняпроўскім» заніжаная порыстасьць мякіша. Па-просту кажучы, хлеб быў чэрствым. У пратаколе праверкі было адзначана, што прычынай гэтага сталі парушэньні тэхналагічнага працэсу і нездавальняючы кантроль за якасьцю прадукцыі на хлебазаводзе.

5 сакавіка Гарадзенскі цэнтр стандартызацыі метралогіі аштрафаваў прадпрыемства за рэалізацыю няякаснай прадукцыі на 238 тысяч рублёў.

## ЗАСЛУЖАНАЕ ДЗІЦЯ ХЛУСЬНІ

Прэзідэнцкім указам званьне заслужанага артыста Беларусі прысвоена расейскаму актору Уладзіміру Гасьцюхіну, які агучваў самы ганебны ў гісторыі беларускага тэлебачаньня фільм «Нянавісьць. Дзеці хлусьні». Такім чынам, прэзідэнт адзначыў «уклад» акцёра ў разьвіцьцё беларуска-расейскіх сувязяў.

**В.ДРЭМА.**

 

# МУЖЧЫНСКІЯ РАЗМОВЫ І «БРУДНЫЯ ГУЛЬНІ»

**Безвынікова скончыліся абедзьве спробы дэпутатаў гарадзенскага абласнога Савету абраць старшыню. Пры гэтым аднаму з кандыдатаў у другім туры галасаваньня не хапіла ўсяго аднаго голасу. Крэсла старшыні Савету застанецца вольным, прынамсі, да 26 сакавіка.**

**Першая сесія новаабранага ў мінулым годзе абласнога «парламанту» распачалася 19 сакавіка. Прысутнічалі на ёй 54 з 56 народных абраньнікаў. Большая палова з іх уваходзіць у склад дзьвюх створаных дэпутацкіх групаў - аграрнай партыі (25 чалавек) і «Згоды» (16 чалавек). Апошняя аб'ядноўвае афіцыйна кіраўнікоў і сьпецыялістаў дзяржаўных установаў вобласьці, але фактычна зьяўляецца аналагам прапрэзідэнцкай фракцыі з такой жа назвай у Вярхоўным Савеце.**

Пасьля таго, як мандатная камісія зацьвердзіла паўнамоцтвы ўсіх прысутных дэпутатаў, распачаліся выбары старшыні Савету. Першай на гэтую пасаду была прапанаваная кандыдатура Сямёна Домаша, старшыні абласнога Савету мінулага скліканьня. Фракцыя «аграрыяў» вылучыла, у сваю чаргу, Лілію Кашанкову, што, як высьветлілася пазьней, прывяло да таго, што першы дзень працы сесіі стаў адначасова днём першага мясцовага «парламанцкага крызісу».

Пачатак скандалу паклаў дэпутат Аляксандр Сокал:

- ...Мы, «заходнікі», выклікаем у Менску нейкае непрыязьце. У абласным Савеце мінулага скліканьня нас увесь час імкнуліся раз'яднаць, і толькі дзякуючы Сямёну Домашу мы захоўвалі адзінства. Ня будзьце падстаўной пешкай у бруднай гульні, Лілія Валер'еўна!» - зьвярнуўся ён да сп.Кашанковай.

Што мелася на ўвазе пад словамі «брудная гульня»? На гэтае пытаньне карэспандэнта «ПАГОНІ» ў перапынку сесіі сп.Сокал адказаў: «Я сапраўды лічу сп.Кашанкову падстаўной фігурай. Яна, магчыма, нават ня ведае, куды яе «падстаўляюць». Але кожны павінен ведаць свой паталок! Дарэчы, напярэдадні сесіі група з 10 дэпутатаў, у лік якіх уваходзіў і я, займалася падрыхтоўкай сёньняшняга паседжаньня. І тады ўздымалася пытаньне аб выбарах старшыні. Усе прагаласавалі адзінагалосна за тое, каб прапанаваць кандыдатуру Домаша. Пра іншых кандыдатаў размовы не было. Вертыкаль сёньня хоча мець усю паўнату ўлады, падмінаючы пад сябе Саветы. Можа гэтыя Саветы сёньня і не патрэбныя, але толькі пры той умове, што кіраўнікі выканаўчай улады будуць абірацца народам, а не прызначацца прэзідэнтам і глядзець яму ў рот».

Масла ў агонь падліло абмеркаваньне абедзьвюх кандыдатур. Напачатку здавалася, што шанцаў у сп.Кашанковай няма. Усе яе «праграмныя» аргументы зводзіліся да валоданьня «палітычнай інтуіцыяй» ды неабходнасьці даць магчымасьць стаць ля ўлады жанчыне. Гэтак жа непераканаўча гучалі і прамовы дэпутатаў, выступаўшых у яе падтрымку:

- У Фінляндыі жанчына - міністр абароны; у Злучаных Штатах улады аддалі загад на 90% укамплектаваць камандны склад ваенна-марскіх сілаў жанчынамі (няўжо?! - аўт.); установы, якімі кіруюць жанчыны - лепшыя ў краіне, - і г.д.

У сваю чаргу прыхільнікі кандыдатуры сп.Домаша спасылаліся на яго багаты досьвед кіруючай працы, выдатныя арганізатарскія здольнасьці. Канчаткова на карысьць былога старшыні аблсавету шалі схіліліся, здавалася, калі запрошаны на сесію намесьнік старшыні Вярхоўнага Савету Генадзь Карпенка зачытаў дэпутатам ліст Сямёна Шарэцкага, у якім прапаноўвалася падтрымаць Сямёна Домаша. Да гэтай прапановы далучыўся і сам сп.Карпенка. Усе чакалі, што у гэткім жа рэчышчы выступіць і Аляксандр Дубко. І на самой справе, напачатку старшыня аблвыканкаму «слаўся» у рэверансах, не шкадуючы кампліментаў у бок Сямёна Домаша: «Калі я спрабаваў стаць прэзідэнтам, што, дзякуй Богу, не ўдалося, Сямён Мікалаевіч быў галоўным маім дарадчыкам. Нас зьвязваюць добрасумленныя працоўныя адносіны...»

Але затым прамова Аляксандра Дубко прымусіла Сямёна Домаша ня раз скрушана ківаць галавой. Старшыня аблвыканкаму пачаў выкладаць «ня толькі сваю думку, але і пункт гледжаньня «вертыкалі» (чытай -прэзідэнта - аўт.). А зводзілася яна вось да чаго. Паколькі кандыдат на месца старшыні аблсавету адначасова зьяўляецца дэпутатам Вярхоўнага Савету, то наўрад ці ён зможа надаваць абласной уладзе неабходную ўвагу, а таму мэтазгодна падтрымаць спадарыню Кашанкову. Прыводзячы гэтыя аргументы, сп.Дубко ўвесь час спасылаўся на «сур'ёзную мужчынскую размову» з Сямёнам Домашам, на якой апошні быў папярэджаны, што супраць яго будзе выстаўленая «альтэрнатыўная кандыдатура».

- Аляксандр Іосіфавіч! Хто, як ня Вы ўвесь час казалі пра тое, што хтосьці з кіраўніцтва вобласьці павінен адстойваць інтарэсы рэгіёну ў Вярхоўным Савеце? Хто, як ня Вы дзеля гэтага падтрымлівалі мяне на выбарах у парламант? Што зьмянілася? І пра якую мужчынскую размову наконт альтэрнатывы мне ідзе размова? Штосьці я такой сустрэчы не памятаю? - адпарыраваў Сямён Домаш.

Перад тайным галасаваньнем быў абвешчаны перапынак. У кулуарах амаль усе размовы дэпутатаў і гасьцей сесіі тычыліся асобы сп.Кашанковай, якую пасьля прамовы Дубко ўсур'ёз пачалі ўспрымаць усе. Дык хто ж яна - Лілія Кашанкова - асоба, на якую ўскладзены давер і спадзяваньні прэзідэнцкай вертыкалі?

- Нарадзілася я ў вёсцы Яскалды Бераставацкага раёну. Маю сям'ю. Муж працуе настаўнікам фізкультуры ў школе, дачка - студэнтка IV курса біяхімічнага факультэту ўнівэрсітэту. 12 гадоў працавала настаўніцай. Працавала сакратаром па ідэалогіі ў Гарадзенскім райкаме КП БССР, чым вельмі ганаруся. 6 гадоў таму зноў пайшла працаваць у школу.

- Ці належыце Вы зараз да якой-небудзь партыі?

- Не, не належу. Але ад некаторых камуністычных ідэалаў я не адмаўляюся і сёньня.

- Калі ў Вас зьявілася думка выставіць сваю кандыдатуру на пасаду старшыні аблсавету?

- Можа нават тады, калі вылучалася кандыдатам у дэпутаты...

- Размовы пра тое, што менавіта Вы будзеце супрацьстаяць Домашу на сходзе працоўнай групы па падрыхтоўцы сесіі не было. Ці не азначае гэта, што Вашае вылучэньне было нечаканым і для Домаша, і для Дубко?

- Думаю, што для Дубко гэта не было нечаканасьцю. Ён даўно мяне ведае і мая кандыдатура яго задавальняе.

- Як Вы адчуваеце сябе ў ролі «пешкі ў бруднай гульні», пра якую гаварыў дэпутат Сокал?

- Я не лічу сябе пешкай. У мяне ёсьць багаты арганізацыйны, палітычны досьвед для таго, каб прымаць самастойныя рашэньні, а не быць цацкай у чужых руках.

Першы тур выбараў вынікаў не прынёс. За Сямёна Домаша прагаласавала 26 дэпутатаў (супраць 28), за Лілію Кашанкову - 27 за і столькі ж супраць. Для таго ж, каб стаць старшынём Савету, аднаму з кандыдатаў трэба было набраць 29 галасоў.

Новае вылучэньне. Зноў прапануюцца тыя ж кандыдатуры. У выніку паўторных выбараў сітуацыя не зьмянілася. Праўда, на гэты раз для перамогі Ліліі Кашанковай не хапіла толькі аднаго голасу...

У зале поўная разгубленасьць - ці то зноў вылучаць тых жа кандыдатаў і праводзіць трэці тур выбараў, ці то шукаць новыя кандыдатуры. У рэшце рэшт прымаецца «саламонава рашэньне» - адкласьці сесію на тыдзень, каб за гэты час улады вобласьці змаглі паміж сабой уладзіць «парламанцкі крызіс». Усьведамленьне ўласнай паўнавартасьці да дэпутатаў аблсавету, відаць, яшчэ не прыйшло.

**Вітаўт РУДНІК.**

# СВАБОДНАЯ ПРЭСА - НЕ КАПРЫЗ

**У дзень Канстытуцыі ў Менску працавала нацыянальная канферэнцыя выдаўцоў незалежнай прэсы, арганізатарамі якой былі Беларуская асацыяцыя журналістаў, цэнтр «Супольнасьць», Інстытут на карысьць дэмакратыі ва Усходняй Эўропе, Менскі міжнародны адукацыйны цэнтр, Беларускі Фонд Сораса. Даклады чыталі дэпутаты парламанту У.Нісьцюк і А.Дабравольскі, выдаўцы незалежных газет І.Сярэдзіч, П.Марцаў, І.Гермянчук, прафесар А.Патупа, віцэ-прэзідэнт беларускага Пэн-цэнтру К.Шэрман, П.Казанецкі з Інстытута на карысьць дэмакратыі (Варшава), каардынатар міжнароднай федэрацыі выдаўцоў газет доктар А.Макмэйн і шмат іншых выдатных асоб. Чакалі памочніка прэзідэнта Лукашэнкі А.Слуку, але ён не прыйшоў - яму гэтая падзея нецікавая.**

Абодва дня размова круцілася вакол адной асі: становішча журналістыкі на Беларусі. Практычна адзінадушна ўсе канстатавалі: у рэспубліцы існуе 1) поўнасьцю прадажная афіцыйная, дзяржаўная прэса і 2) незалежная, якая грашыць няўменьнем зарабляць грошы, а таксама робіць недарэчныя памылкі. Прыкладам апошняга была названа адна незалежная віцебская газета, якая па простасьці душэўнай надрукавала верш «Убей президента», які абыйшоўся ім вялікімі непрыемнасьцямі.

Канферэнцыя прыняла зварот да грамадзян і ўлады, які прымаўся ў спрэчках і нарадзіўся ў муках. У праекце было сказана, што «беларускамоўныя сродкі масавай інфармацыі знаходзяцца ў фінансавым стане значна горшым за стан рускамоўных мас-медыа». Пагэтаму патрэбна «увесьці падатковыя ільготы для сродкаў масавай інфармацыі, якія выдаюцца (вяшчаюць) толькі на беларускай мове».

Можна было б сказаць: у беларускай прэсе яўна дзьме сьвежы вецер. Аднак, як заўважыў выдавец газет «Имя» і «Белорусская деловая газета» П.Марцаў, незалежныя выдаўцы «сидят и ждут, когда придут за ними».

**Лявон ДАЎГЯЛА.**

# БУДЗЕМ СЯБРАВАЦЬ З ДЖАЛАЛ-АБАДАМ

Як паведамлялася ў мінулым нумары «ПАГОНІ», з афіцыйным візітам Горадню наведаў Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Кыргызстану ў Беларусі Барубек Ашыраў. 4 сакавіка ў аблвыканкаме адбылася яго сустрэча з кіраўніцтвам нашай вобласьці, у выніку якой падпісаны рабочы пратакол аб шляхах супрацоўніцтва паміж Джалал-Абадзкай вобласьцю гэтай сярэднеазіяцкай краіны і Гарадзеншчынай.

Плануецца, што ўжо ў бліжэйшы час Гарадзенскае прадзільна-ніткавае аб'яднаньне пачне атрымліваць бавоўну, тытунёвая фабрыка - тытунь, Слонімская камвольна-прадзільная фабрыка - шэрсьць.

**Віктар ЛЮДВІКОВІЧ.**

# СТРАКАТЫЯ КАРЦІНКІ НА ШЭРЫМ ЭКРАНЕ ці «зрабіце нам прыгожа»

**Ваенны завод ВА «Хваля», шырокім масам знаёмы больш як «магнітола», даўно практыкуе выдачу зарплаты гатовай прадукцыяй, што сьведчыць пра гаротнае фінансавае становішча прадпрыемства. Не дапамагаюць ні перапрацоўка крыветак, ні аб'яднаньне з такім жа жабрацкім заводам «Радыёпрыбор».**

Стаўшы «Радыёхваляй», ваенны монстр сярод іншых мераў прыняўся за новамодныя для нас мэнэджмент, маркетынг і рэкламу. Аднаму з знаёмых фатографаў заказалі серыю слайдаў з відамі гораду, з якіх будуць аддрукаваныя прасьпекты, буклеты і плакаты, якія ў прыгожым колеры паказваюць прадукцыю ўзбуйнёнай фірмы. Паколькі грошай на гэта няма, нейкая маскоўская друкарня згадзілася на бартэр: зробіць за тыя самыя магнітолы. Фатографу таксама плаціць няма чым, але: «У маім тэлевізары кінескоп патускнеў, паставіце новы - і будзем квіты», - увайшоў у становішча майстар плёнкі і аб'ектыва.

Ведаючы справу людзі прапануюць дзейныя меры паляпшэньня справаў: «Не аб'ядноўваць, а наадварот раздрабіць на невялікія зьвёны трэба было Магнітолу», - і па сёньняшні дзень упэўнены, напрыклад, старшыня аблсавету С.Домаш.

Не паслухаліся, работа стаіць. Затое плакаты будуць прыгожыя. З плакатамі мы выжылі.

**І.СНАПКО.**

# ЗАКІДАЕМ НЕМЦАЎ КОЎДРАМІ

**Праграма першачарговых мераў па вываду з крызісу танкасуконнага аб'яднаньня ў Горадні зацьверджана на паседжаньні гарвыканкаму.**

У мінулым годзе аб'ём вытворчасьці на прадпрыемстве ўпаў да 29,7 працэнта ў параўнаньні з 1994 годам. На аб'яднаньні працавала толькі пятая частка ўсіх вытворчых магутнасьцей. Рабочыя месяцамі не атрымлівалі зарплату. У выніку аб'яднаньне панесла страты ў памеры 3 мільярдаў 229 мільёнаў рублёў, зьмянілася кіраўніцтва прадпрыемства.

Новаму дырэктару сп.Тупіцу даручана да 1 красавіка перавесьці аб'яднаньне на двухзьменны рэжым працы. Для гэтага патрэбна рэалізаваць са складоў гатовую прадукцыю на суму 6 мільярдаў рублёў, аднавіць выпуск і пастаўку ў Германію коўдраў па доўгатэрміновых кантрактах, што павінна прынесьці ТСА каля пяці з паловай мільёнаў дойчмарак у год.

# ЖАБРАКІ НАДАКУЧЫЛІ?

**Гарадзенскія ўлады зьвярнуліся ў аблвыканкам з просьбай аб правядзеньні налічэньня безнаяўных жыльлёвых субсідый для грамадзян, якія жывуць у ведамасных інтарнатах ці дамах, уладальнікамі гэтага жыльля ці за кошт сродкаў пазабюджэтнага фонду па атрыманьню ведамаснага жыльля.**

Толькі за студзень памер субсідый, выдаткаваных гарадзенцам склаў каля шасьці з паловай мільярдаў рублёў.

Выплочваць і надалей такую суму толькі за кошт мясцовага бюджэту будзе праблематычна - фінансы даўно ўжо сьпяваюць рамансы. А таму, акрамя звароту за дапамогай да вобласьці, гарадзенскія ўлады зацьвердзілі Палажэньне аб прадстаўленьні безнаяўных жыльлёвых субсідый асобным катэгорыям грамадзян. Так, з гэтага часу за субсідыямі могуць не зьвяртацца беспрацоўныя, якія былі зарэгістраваныя ў цэнтры занятасьці на працягу году і адмовіліся ад прапанаванай працы ці перападрыхтоўкі, сем'і, у якіх муж ці жонка працуюць за межамі краіны і не прадстаўляюць даведку аб прыбытках ды шэраг іншых катэгорый грамадзян.

# ЗАМЕСТ ВАЕННАЙ БАЗЫ — КАЛОНІЯ

У хуткім часе на Гарадзеншчыне зьявіцца яшчэ адна калонія для асуджаных. Разьмесьціцца яна на тэрыторыі ваеннага гарадка ў Гезгалах (Дзятлаўскі раён), дзе да гэтага часу знаходзілася база расейскіх стратэгічных войскаў. Зараз ваенны гарадок ахоўваюць беларускія ўнутраныя войскі, якія сочаць за тым, каб «браты па зброі» ня вывезлі ў Расею чагось лішняга. Новая калонія хоць крыху «разгрузіць» перапоўненыя асуджанымі аналагічныя «выпраўленчыя» установы.

Калі зьявяцца сродкі, праз некаторы часу вобласьці зьявіцца і новая турма, праект будаўніцтва якой распрацаваны інстытутам Міністэрства ўнутраных спраў. Разьмясьціць яе плануецца за Горадняй у раёне «Хімвалакна».

**Вітаўт РУДНІК.**

# ПАРУШАЛІ І ПАРУШАЦЬ БУДЗЕМ

120 складзеных пратаколаў, больш 10 мільёнаў рублёў спагнаных штрафаў - такія вынікі рэйду Лідзкай падатковай інсьпекцыі па гарадзкім і калгасным рынку.

Калі разабрацца, то можна кожны дзень штрафаваць палову рынку, бо мець усе правільна афомленыя паперы можа толькі сталы гандляр.

**Вацлаў СЯРПІНСКІ.**

**Дарагія суродзічы!**

Надыйшоў наш Вялікі Сакавік - 78-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі - нашае нацыянальнае сьвята, якое мы заўсёды ўрачыста адзначаем.

Апошнім часам паўстала вялікая пагроза ня толькі беларускай незалежнасьці, але нават існаваньню беларусаў, як нацыі. Аб'яднаўшыся тут на эміграцыі, мы павінны разам з сваімі братамі на Бацькаўшчыне прыкласьці ўсю сваю энергію і творчыя сілы, каб не дапусьціць страты беларускай дзяржаўнасьці.

Няхай вялікі Сакавік вядзе нас да здабыцьця волі нашаму народу і поўнай незалежнасьці нашай любай Беларусі! Няхай сьвеціцца запаленая іскрынка свабоды на нашай Бацькаўшчыне!

Няхай жыве Вольная і Дэмакратычная Беларусь!

**Беларускі кангрэсавы Камітэт Амерыкі.**

# СУМЕЖЖА

**Дарагія суродзічы!**

Ад імя сяброў Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады дый сябе асабіста вітаю вас з запаветным Днём 25 Сакавіка - Днём Незалежнасьці Беларусі!

У гэты дзень 78 год таму назад у Менску Рада Усебеларускага Кангрэсу Актам 25 Сакавіка абвясьціла незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі.

Акт 25 Сакавіка мае каласальнае для нас значэньне:

1. Актам 25 Сакавіка беларускі народ заявіў усяму сьвету сваю волю быць незалежным і гэтым запачаткаваў у беларускім адраджэнцкім руху новую эпоху - эпоху змаганьня за дзяржаўную незалежнасьць Беларусі.

2. Акт 25 Сакавіка паставіў на парадак дня пытаньне незалежнасьці Беларусі.

3. З Актам 25 Сакавіка мусілі лічыцца й бальшавікі, калі ў 1919 годзе мусілі стварыць, хай сабе й фікцыйную, БССР. Каб не было Акту 25 Сакавіка, не было бы і Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, а была бы толькі паўночна-заходняя вобласьць РСФСР.

4. Каб не было Акту 25 Сакавіка, не было бы і прадстаўніцтва Беларусі ў Задзіночаных Нацыях.

5. Не было б сёньня і Рэспублікі Беларусь.

Вось чаму беларусы, дзе бы мы не знаходзіліся, кожны год урачыста адзначаем найвялікшае нашае нацыянальнае сьвята Дзень 25 Сакавіка -Дзень Незалежнасьці Беларусі.

У Канадзе ў гэты дзень ад 1970-га і з году ў год ля ратушы Таронта ўзьвіваецца бел-чырвона-белы сьцяг й гаворыць колькімільённаму гораду аб Беларусі. У гэты дзень у беларускіх цэрквах адбываюцца набажэнствы за Беларусь і беларускі народ. У гэты дзень пасьля у беларускіх залах пад бел-чырвона-белымі сьцягамі і старадаўняй крывіцкай Пагоняй (крывіцкай, бо была яна дзяржаўным гербам ўжо Полацкага княства крывічоў) адбываюцца ўрачыстыя Сходы і гучаць на іх прарочыя словы Янкі Купалы:

*Паўстань з народу нашага, Уладар,*
*Адбудаваць свой збураны пасад.*
*Бо твой народ забыў, хто гаспадар*
*І хто яго абдзёр з каронных шат.*
*На Уладара жджэ Беларусь даўно,*
*І жджэ цябе ўладарства Божы дар,*
*Вялікае, магутнае яно...*
*Пад беларускі сьцяг прыдзі, Уладар.*

У гэты Дзень 25 Сакавіка мы лучымся душой і сэрцам з вамі, дарагія суродзічы, жадаем вам добрага здароўя і сілы духа, таксама дзелімся з вамі запаветным клічам нашага прарока Янкі Купалы:

*Паўстань, народ! Для будучыні шчасьце*
*Ты строй, каб пут ня строіў больш сусед.*
*Ня дай у гэты грозны час прапасьці -*
*Прапаўшых не пацешыць шчасьцем сьвет.*

*Сваю магутнасьць пакажы ты сьвету -*
*Свой край, сябе ў пашане мець прымусь.*
*Паўстань, Народ!.. З крыві і сьлёз кліч гэты...*
*Цябе чакае Маці-Беларусь!*

Дай жа нам усім, Божа, сілы духа пачуць і ісьці за клічам Янкі Купалы.

Жыве Беларусь!

**Др. Раіса Жук-Грышкевіч, старшыня.**

# РАКА ПАМЯЦІ

**У Эўропе ёсьць яшчэ адзін народ, які сьвяткуе свой Дзень Незалежнасьці 25 сакавіка - грэкі. «Грэцыя - маленькая краіна, але яна мае вялікую культуру». Гэтыя словы, пачутыя мною дваццаць год назад з вуснаў актора-трагіка пад час гастроляў Афінскага Нацыянальнага тэатру ў адной «вялікай» краіне (якой ужо няма), усхвалявалі сваім шчырым, нефанабэрыстым пафасам. Элада - радзіма эўрапейскай культуры. І мы, як і ўсе эўрапейцы, яе спадчыньнікі. Колькі б нам не навязвалі сібірска-сімбірскіх родзічаў.**

З вышыні замчышча ў родным Гомелі рака Сож заўсёды ўражвае паўнаводнасьцю свабоднай, неўтаймаванай плыні. Здаецца, яшчэ імгненьне - і хвалі панясуць на поўдзень лодкі гандляроў-падарожнікаў. Шляхам з варагаў у грэкі, па старажытнай артэрыі, што зьвязала палюсы Эўропы - Скандынавію і Візантыю. Захапляе строгай чысьцінёй ліній, ідэальнай гармоніяй архітэктурных форм Петрапаўлаўскі сабор 19 стагоддзя. Помнік класіцызму, нашчадак класічнай архітэктуры антычнай Грэцыі. Большасьць з нас і не задумваецца над гэтым, прымаючы як дадзенае. Не заўважаем і падораных грэцкай мовай словаў, важных паняцьцяў: філасофія, тэхніка, космас...



Дарэчы, слова «русь» варажскага, скандынаўскага паходжаньня, але сустракаецца ўпершыню (як адзначыў расейскі гісторык 19 ст. М.Ключэўскі) у візантыйскіх хроніках, абазначаючы ўзброеную сьвіту кіеўскіх князёў. Першы Крыж узьняў на нашай зямлі ісландзкі місіянер Торвальд Вандроўнік у X ст. Але з Канстаньцінопаля, з Грэцыі на Беларусь прыйшло пераможнае хрысьціянства. Пасьля трагічнага падзелу Царквы на Заходнюю і Усходнюю ў 1054 г. менавіта ў Грэцыі сфармавалася праваслаўе, візантыйская культура стала адным з вышэйшых дасягненьняў чалавечага генія. Уплыў заходняй, каталіцкай культуры, яе суіснаваньне з грэцкай традыцыяй, безумоўна, узбагацілі Беларусь. Нямногія яшчэ разумеюць фенаменальны характар гэтай непаўторнай зьявы.

Першымі герархамі беларускай Царквы ўсходняга абраду былі грэкі. Рамеі (так сябе называлі эліны візантыйскага перыяду) пабудавалі Полацкую Сафію па ўзору і падабенству Сафійскага сабору ў Канстаньцінопалі, навучылі нашых майстроў мастацтву мазаікі, фрэскі, іканапісу, перагародчатай эмалі. Абраз «Багародзіца з немаўляткам» (16 ст.), каштоўнейшы твор грэцкага майстра ў зборах Нацыянальнага мастацкага музея ў Менску і многія іншыя абразы былі крыніцай натхненьня для нашых ізографаў (традыцыйная грэцкая назва праваслаўнага мастака). Веданьне грэцкай мовы і літаратуры было прыкметай адукаванасьці і духоўнага багацьця. Успомнім Кірылу Тураўскага ды іншых, хто ў нашай мінуўшчыне «славили Бога гласы немолчными». Грэкамі былі асьветнікі славянства браты Сьвятыя Кірыла і Мефодзі.

Дэмакратыя (па-грэцку - улада народу) сучаснай цывілізацыі сваімі каранямі сягае палітычнай мадэлі афінскай дзяржавы 5 ст. да н.э., «Залатога веку» Перыкла. Толькі, на вялікі жаль, у беларускай дзяржаве яна пераўтварылася ў маразматычную форму ахлакратыі (зноў ад грэцкай мовы - улада натоўпу). «Какос», - сказаў бы грэк пра значную частку нашага насельніцтва, раўнадушную да палітыкі, да лёсу дзяржавы і ўласнай будучыні.

Былі падобныя моманты і ў гісторыі антычнай Элады. Разадраная амбіцыйнымі прэтэнзіямі палітычных партый, барацьбой гарадоў-дзяржаваў, Грэцыя аказалася бясьсільнай сам на сам з магутнай агрэсіўнай Персідзкай імперыяй, што напірала з усходу. Фермапільскі праход, прыродную вузкую браму, праз якую адкрывалася ў гарах дарога на квітнеючую Грэцыю, прыйшлі бараніць 300 спартанцаў на чале з царом Леанідам. Іхні подзьвіг абудзіў элінаў, плямёны аб'ядналіся і пачалі пераможнае змаганьне супраць стракатага мільённага войска ўсходняй дэспатыі. Абудзіў ня толькі тады, у 480 г. да н.э., але і ў 1941 г., калі пад Фермапіламі грэцкія аддзелы геравічна абараняліся пад ударамі нямецка-фашысцоўскай навалы.

Глыбокае ўсьведамленьне сваёй гістарычнай традыцыі, шанаваньне культурнай спадчыны - неад'емныя, арганічныя рысы грэцкай нацыі. Самы змрочны перыяд у гісторыі Элады - 400-гадовая асманская няволя. Народ выжыў у варожым палоне толькі дзякуючы вернасьці сваёй культуры, рэлігіі, мове. 25 сакавіка 1821 году пачалася васьмігадовая вайна за незалежнасьць. У Афінах турэцкі гарнізон адступіў на гару Акропаль. Пачалася аблога, у акупантаў канчалася амуніцыя. Раптам грэкі ўбачылі, што туркі пачалі разламваць барабаны мармуровых калон акропальскіх антычных пабудоў, і паслалі да турак парламаньцёра з лістом: «Мы прышлём вам кулі, не разбурайце помнікі».

Сучасная Грэцыя (разам з Партугаліяй і Іспаніяй) не займае першых месцаў у заходнеэўрапейскім спаборніцтве цывілізаваных дзяржаваў. Але палякі, напрыклад, падлічылі, што ім спатрэбіцца 15-20 год рэформаў і працы, каб дасягнуць іхняга ўзроўню. Зусім нядаўна Эўрасаюз надаў Грэцыі новую ролю партнёра-пасрэдніка паміж Заходняй і Цэнтральнай посткамуністычнай Эўропай. А ў гэты час менская і маскоўская дзяржаўна-камуністычныя мафіі, спрытна засвоіўшы псеўдаправаслаўную рыторыку, скалочваюць разам з пабітымі сербскімі агрэсарамі Сьвяшчэнны Хаўрус «супраць каталікоў і мусульманаў».

На двары XX стагоддзе. Будзем жа шукаць сяброў на незабытым шляху з варагаў у грэкі!

**Валеры БУЙВАЛ.**

**НА ЗДЫМКУ: храм Парфенон на Афінскім Акропалі (5 ст. да н.э.)**

# НАВОШТА СЯБЕ ПАДМАНВАЦЬ?

**Са 150 сумесных прадпрыемстваў з удзелам замежнага капіталу на Гарадзеншчыне вытворчасьцю займаюцца толькі 27. Доля выробленай імі прадукцыі складае ўсяго 1% ад агульнага аб'ёму вытворчасьці вобласьці. Пра гэта на прэс-канферэнцыі для журналістаў паведаміў загадчык аддзелу зьнешнеэканамічных сувязей аблвыканкаму Віктар Зданчук.**

На яго думку, актывізацыі замежнага капіталу на Гарадзеншчыне перашкаджае адсутнасьць усялякіх для гэтага стымулаў. Магчыма, яны зьявяцца пасьля стварэньня на тэрыторыі вобласьці свабоднай эканамічнай зоны. Прэзідэнтам рыхтуецца зараз адпаведны ўказ. Праўда, датычыць ён пакуль толькі Берасьцейшчыны.

У цэлым жа тавараабарот Гарадзеншчыны з замежнымі краінамі склаў у мінулым годзе 617 мільёнаў долараў. Прычым за мяжу прадукцыі вывозілася значна больш, чым увозілася на тэрыторыю вобласьці. Гэтаму паказчыку можна было б парадавацца, але ў лік імпартуемай прадукцыі у Беларусі, аказваецца, не ўваходзяць расейскія энерганосьбіты, запазыка краіны за якія ўжо дасягнула амаль мільярду долараў.

Штучна выведзенае станоўчае сальда ў зьнешнім гандлі вобласьці выглядае чыстым блефам. Дык навошта сябе падманваць?

**В.Р.**

# *БЕЛАРУСЬ СТАНОВІЦЦА ЯДЗЕРНАЙ ДЗЯРЖАВАЙ*

**Згодна з графікам вываду расейскіх войскаў з тэрыторыі Рэспублікі Беларусь Міноцтаўскі полк расейскай дывізіі ракетных войскаў стратэгічнага прызначэньня згарнуў баявую тэхніку і падрыхтаваўся да перадыслакацыі. Але ўмяшаўся прэзідэнт. Вайскоўцы ізноў разгарнуліся і занялі баявыя пазіцыі.**

Тым ня менш, графік вываду расейцы не адмянілі. Вось тут і закручваецца ўся інтрыга. Расейцы, згодна з графікам, выводзяць асабовы склад, а ракеты застаюцца. Нікуды не нацэленыя, зьнятыя з баявога дзяжурства, але застаюцца. Асаблівасьць савецкай ракетнай тэхнікі такая, што яна патрабуе пастаяннага абслугоўваньня. І вось узьнікае ідэя сумеснага абслугоўваньня гэтых ракетаў расейскімі і беларускімі вайскоўцамі. Расеі гэта выгадна. І перш за ўсё фінансава. Ракеты як бы іхнія - і ня іхнія, персанал іхні - і ня іхні, грошы беларускія, а ўсё камандаваньне - расейскае. Выгадна таксама і нашаму прэзідэнту. Ён рэальна набліжаецца да ядзернай кнопкі. Гэта, безумоўна, «дзеля стабільнасьці». Эўропа павінна «стабілізнуцца» адразу, як толькі ўявіць прыхільніка Гітлера з ядзернымі ракетамі ў самым цэнтры кантынэнту.

Сумеснае абслугоўваньне ракетаў у Міноцтах пакуль на стадыі ідэі, але да рэалізацыі яе, думаецца, ня так і далёка.

**Станіслаў СУДНІК.**

# ХТО СТАНЕ ГАСПАДАРОМ МУЗЕЯ?

**У Гайнаўцы набліжаецца да сканчэньня будаўніцтва музея беларускай культуры. Аднак да гэтага часу невядома, хто павінен фінансаваць апошні этап будаўніцтва і будучую дзейнасьць музея, а таксама чыёй уласнасьцю ён будзе.**

Дзеля вырашэньня гэтых пытаньняў яшчэ ў студзені беластоцкі ваявода стварыў камісію, у якую ўвайшлі прадстаўнікі мясцовай улады, сябры грамадзкага камітэту музея беларускай культуры і Беларускага Грамадзка-Культурнага Таварыства.

Нагадаем, што першы Беларускі музей на тэрыторыі Польшчы быў створаны 30 гадоў таму ў Белавежы і насіў імя Кастуся Каліноўскага. Праіснаваў ён да 1972 году. Польскія беларусы спадзяюцца, што век музея ў Гайнаўцы будзе куды даўжэйшы.

**В.АНІМУЦКІ.**

# ХТО СЕЕ ВЕЦЕР, ПАЖНЕ БУРУ!

**Рашэньне Расейскай Думы аб адмене ратыфікацыі Белавежскіх пагадненьняў 1991 году стала самай сенсацыйнай і важнай падзеяй мінулага тыдня. Важнасьць гэтай падзеі ў тым, што былі высьветлены пазіцыі асноўных палітычных сілаў перад прэзідэнцкімі выбарамі ў Расеі.**

Камуністы пацьвердзілі свой намер не лічыцца з думкай нікога са сваіх блізкіх ці далёкіх суседзяў. Яны ізноў гатовы ўвесь сьвет «до основания, а затем...» Расейскія дэмакраты пераканаліся ў слабасьці сваіх пазіцый. І, нарэшце, Жырыноўскі са сваёй ЛДПР яшчэ раз паказаў, хто ў Расеі робіць рэальную палітыку. Маляўніча патросшы кайданамі над думскай трыбунай, справакаваўшы камуністаў на авантуру, Жырыноўскі зараз можа спакойна падлічваць дывідэнды. Ужо ўвечары 15 сакавіка ў перадачы «Взгляд» ён адкрыта сьмяяўся над камуністамі. Аказваецца, ЛДПР не галасавала за дэнансацыю Белавежскіх пагадненьняў. Яна проста не прызнае ні развалу, ні стварэньня СССР. ЛДПР «галасавала» за Расейскую імперыю.

Дэнансаваўшы Белавежскія пагадненьні, камуністы фактычна ня толькі «выйшлі» з СНД Расею, але і адмовілі ў прызнаньні і самой Расейскай Федэрацыі як краіны і як суб'екту міжнароднага права. Ад імя каго зараз Зюганаў будзе выступаць у Эўропе? Ад РСФСР?

Ельцын, безумоўна, гэта скарыстае. Усе расейскія СМІ будуць весьці безупынную атаку на камуністаў, як на сусьветных тэрарыстаў, цемрашалаў і авантурыстаў. У выніку гэтага, рэйтынг Зюганава будзе зьбіты. У другі тур прэзідэнцкіх выбараў выйдуць Ельцын і Жырыноўскі. Жырыноўскі ў другім туры здыме сваю кандыдатуру на карысьць Ельцына.

Жырыноўскі прыйшоў да стварэньня ЛДПР у годнасьці капітана КДБ. За перамогі на выбарах, за ўступленьне ў Савет Эўропы і іншыя заслугі, напэўна, ужо ня раз атрымліваў падвышэньні. Калі ён прывядзе Ельцына да ўлады, генеральскія лампасы яму гарантаваныя.

Якое ж дачыненьне мае Беларусь да гэтай гульні? Беларусь - асноўны козыр і ў ельцынскай палітычнай калодзе, і ў планах камуністаў. Зараз Беларусь завісла паміж Ельцыным і Зюганавым. Большыя магчымасьці зайсьці з беларускай шасьцёркі мае Ельцын. Таму і большыя шанцы ў яго. Але...

...Хочацца нагадаць агалцелым «інтэгратарам» усіх масьцяў вядомае прыслоўе: «Хто сее вецер - пажне буру».

**Станіслаў СУДНІК.**

# АД МОРА ДА МОРА

**Сёньня ў Менску ў штаб-кватэры Беларускага Народнага Фронту пачне працу Кангрэс Лігі дэмакратычных партыяў краін Міжмор'я. У ліку ўдзельнікаў — прадстаўнікі Украіны, Польшчы, Летувы, Латвіі. Беларусь, акрамя Беларускага Народнага Фронту, прадстаўляюць АГП і БСДГ.**

На працягу двух дзён будуць абмеркаваны праблемы эканомікі краін Міжмор'я, геапалітыкі, правоў чалавека. Усебакова плануецца разгледзець канцэпцыю Балта-Чарнаморскага нафтавага калектару, асноўным дакладчыкам будзе дырэктар украінскага інстытуту транспарту нафты Аляксандр Тодзійчук. Сярод удзельнікаў дыскусіі таксама прадстаўнікі заканадаўчых, выканаўчых ды гаспадарчых структур суседніх дзяржаваў.

Прыняць удзел у Кангрэсе прапанавана кіраўнікам Міністэрстваў эканомікі ды энергетыкі Беларусі.

**Ул. інф.**

# ДАКУМАНТЫ

## ДА ГІСТОРЫІ ПАЛІТЫЧНАЙ ДЗЕЙНАСЬЦІ БЕЛАРУСКАЙ ЭМІГРАЦЫІ

*Пра эміграцыйную Раду Беларускай Народнай Рэспублікі за апошнія гады напісана шмат. Аднак, чамусьці, у гэтых артыкулах ня згадваецца актыўная палітычная дзейнасьць Рады і Ураду БНР, а таксама прэзідэнта Міколы Абрамчыка ў другой палове 1940-х – пачатку 1950-х гадоў. Гэта быў той час, калі многія беларускія эмігранты, якія знаходзіліся ў лагерах ДП у Заходняй Нямеччыне, верылі ў магчымасьць пачатку вайны Захаду з СССР і рыхтаваліся да яе. Гэта быў той час, калі на Беларусі пашыралася партызанскае змаганьне з бальшавіцкім акупантам. Гэта быў той час, калі ў Сібір ішлі дзесяткі цягнікоў, у якіх пад моцнаю аховаю везьлі «кулакоў» і «пособников бандитов»...*

*Да 1947 г. Урад БНР дзейнічаў нелегальна, асьцерагаючыся правакацыяў савецкіх сьпецслужбаў, якія напрыканцы 1945 году папярэдзілі многіх ведамых беларускіх палітычных дзеячаў, каб тыя ўстрымаліся ад актыўнай дзейнасьці. З дапамогаю падпольля Беларускай Незалежніцкай Партыі ў Берліне, Польшчы, Чэхаславаччыне, была наладжаная сувязь з камандуючым БВА, кіраўніком БНП генералам М.Вітушкам. Пазьней, на пачатку 50-х гадоў, Рада БНР, з дапамогаю амерыканскіх сьпецслужбаў арганізавала закідку ў БССР беларускіх дыверсійна-разьведвальных групаў. Такім чынам і беларуская эміграцыя спрычынілася да арганізацыі антысавецкага супраціву на Беларусі.*

*Важным асьпектам дзейнасьці Ураду і Рады БНР зьяўляюцца шматлікія мемарандумы, звароты да ўрадаў і кіраўнікоў заходніх краін. У іх высьвятляліся пытаньні барацьбы беларускага народу за сваю незалежнасьць, бальшавіцкага генацыду, лігітымнасьці Рады БНР і г.д. Адзін з такіх мемарандумаў быў пададзены ўдзельнікам Парыжскай мірнай канферэнцыі, якая праходзіла ў ліпені-кастрычніку 1946 году. У канферэнцыі прынялі ўдзел і прадстаўнікі Ўраду Беларускай ССР, што і выклікала пратэст Ураду БНР. Гэта было ці ня першае выступленьне Ураду БНР у пасьляваенны час.*

*Дакумант гэты быў надрукаваны ў эміграцыйным часопісе «РУХ» у студзені 1947 году. Рэдакцыя дала такі каментар: «Урад Беларускай Народнай Рэспублікі, які карыстаецца паўнамоцтвамі Першага Усебеларускага Кангрэсу, скліканага ў Менску дня 18-30 сьнежня 1917 г., і зьяўляецца адзіным паўнапраўным рэпрэзэнтантам суверэнных правоў беларускага народу, злажыў на рукі прадстаўнікоў усіх дзяржаваў (за выключэньнем Савецкага Саюзу і ягоных сатэлітаў), што бралі ўдзел на Мірнай Канферэнцыі ў Парыжы, мемарыял ад імя беларускага народу. Матэрыял быў падпісаны ўпаўнамочаным прадстаўніцтвам Ураду Б.Н.Р., якое нелегальна дзеіць на Бацькаўшчыне і кіруе змаганьнем беларускага народу супраць расейска-бальшавіцкіх акупантаў».*

## МЕМАРЫЯЛ УРАДУ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ НА МІРНУЮ КАНФЕРЭНЦЫЮ Ў ПАРЫЖЫ

Ваша Эксцэленцыя!

На мірную канферэнцыю ў Парыжы ў ліку 21 саюзных народаў зьявілася і дэлегацыя ад т.зв. Ураду Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі (БССР), якая мае прадстаўляць інтарэсы беларускага народу.

Урад Беларускай Народнай Рэспублікі рахуе сваім абавязкам давесьці да ведама прадстаўнікоў усіх вольных народаў і заявіць усяму цывілізаванаму сьвету наступнае:

1. Усялякія дэлегацыі ўпаўнамочаныя Урадам БССР, а ў тым ліку і дэлегацыя на мірную канферэнцыю ў Парыжы, ня маюць ніякага права для рэпрэзэнтацыі беларускага народу, бо Урад БССР не зьяўляецца ані выбраным беларускім народам, ані падлягаючым хоць бы ў значнай частцы кантролю беларускага народу.

2. Урад БССР складаецца выключна (у 100%) з сяброў камуністычнай партыі ў той час, як нават згодна савецкай статыстыцы камуністых у Беларусі нарахоўваецца ледзьве 7%.

3. Урад БССР нават па свайму персанальнаму складу зьяўляецца не беларускім, бо 80% сяброў гэтага ўраду і з яго прэм'ерам Панамарэнкам на чале па нацыянальнасьці - расейцы.

4. Урад БССР зьяўляецца марыянеткавым урадам Масквы, накінутым беларускаму народу супраць ягонай волі і падтрымліваны сілай зброі і тэрорам НКУС.

5. Урад БССР дзеіць выключна ў інтарэсах Расеі і супраць інтарэсаў беларускага народу:

а) У ПАЛІТЫЦЫ УНУТРАНАЙ: Урад БССР, сьцісла выконваючы загады Масквы, няўпынна вёў і вядзе змаганьне з беларускім народам; жорстка распраўляецца з найбольш патрыятычнай часткай беларускага народу; бязьлітасна нішчыць беларускую нацыянальную культуру, руйнуе беларускую народную гаспадарку, прытарноўваючы яе да адзінай таталітарна-цэнтралістычнай сістэмы савецка-расейскай імперыі.

За пасярэдніцтвам ураду БССР Крамлёўскімі ўладамі было:

а) зьнішчана фізічна: звыш 3000 перадавой беларускай культурнай эліты (паэтаў, пісьменьнікаў, кампазітараў, маляроў, выдатнейшых навукоўцаў і эліты духоўнай).

б) дэпартавана ў Сібір каля 18 000 беларускай інтэлігенцыі і каля 2 800 000 актыўнейшых сялян і работнікаў.

На месца расстралянай ці замардаванай у турмах або вывезенай у Сібір беларускай інтэлігенцыі Ўрад БССР садзіць расейцаў або заслужаных камуністых, зьбегшых з цэнтральнай і Заходняй Эўропы (мадзяраў, балгараў, немцаў і г.п.)

Урад БССР па загаду Масквы ў 1937 годзе выдаў загад выняць з ужытку і спаліць 1778 літаратурна-мастацкіх, навуковых і палемічных твораў агульным лікам каля 12 000 000 экзэмпляраў, якія мелі беларуска-нацыянальны характар. Адначасна было загадана прыняць з публічных месцаў усе гістарычныя беларускія памятнікі.

Пачынаючы з 1933 г. Урад БССР інтэнсіўна праводзіць русіфікацыю беларускай мовы.

б) У ПАЛІТЫЦЫ ЗЬНЕШНЯЙ: Урад БССР ад самага пачатку яго намінацыі Масквой ніводзін раз не выступаў у абароне тэрытарыяльнай цэласьці Беларусі.

Каля 7 000 000 беларускага насельніцтва, пражываючага кампактнай масай на ўсходніх і паўночных граніцах БССР, уключаны і па сёньня ў склад Расейскай ФССР.

Крамлёўскія ўлады пры пертрактацыях з заходнімі суседзямі Беларусі распараджаліся тэрыторыяй Беларусі, як сваім собскім рэзэрвуарам, і па свайму собскаму погляду некалькі разоў кроілі і перакройвалі заходнія межы Беларусі. Урад БССР не забіраў ніводзін раз голасу і прадстаўнікі Савецкай Беларусі ня прысутнічалі ані на адным з трактатаў паміж Расеяй і Польшчай, паміж Расеяй і Летувой у справах заходніх межаў Беларусі, ня гледзячы на тое, што згодна Канстытуцыі БССР зьяўляецца суверэннай дзяржавай.

Урад БССР ня выступіў ніводзін раз з пратэстам супраць праводжаным некалькі разоў падзелам Беларусі, нават тады, калі чыста этнаграфічныя беларускія землі ўступаліся Масквой суседнім дзяржавам з некалькімі мільёнамі беларускага насельніцтва і з такімі культурнымі беларускімі асяродкамі, як гістарычнай сталіцай Беларусі - Вільняй, ці такім індустрыяльным цэнтрам Беларусі, як Беласток.

Рэпрэзэнтанты Ўраду БССР сваю актыўнасьць на міжнароднай арэне распачалі з дамаганьня ад заходнедэмакратычных народаў прымусовай рэпатрыяцыі беларускіх палітычных эмігрантаў, уцёкшых ад жорсткага прасьледаваньня расейскіх акупантаў, ды інтэрвенцыі ў справе Трыесту, адным словам, у абароне інтарэсаў выплываючых з жаданьня Масквы, а не беларускага народу.

У выніку чаго:

Беларускі народ, бачучы Ўрад БССР чыстым творам Масквы і паслушным інструментам у руках Крамля, ніколі не ўважаў яго сваім собскім урадам.

Урад БССР па глыбокаму і бясспрэчнаму перакананьню ўсяго беларускага народу зьяўляецца ня больш і ня менш, як памочным адміністрацыйным органам акупацыйнага расейскага апарату.

Дзеля гэтага беларускі народ усялякія выступленьні Ўраду БССР ад імя Беларусі рахуе самазванымі, а ўсялякія забавязаньні Ўраду БССР, што датычаць беларускага народу і тэрыторыі Беларусі - ня маючымі ніякае праўнае моцы.

Адзіным праўным і законным сваім рэпрэзэнтантам беларускі народ уважаў і ўважае Урад Беларускай Народнай Рэспублікі, які ён выбраў сабе сам 18.12.1917 г. на ўсенародным беларускім Кангрэсе, прадстаўленым 1872 дэпутатамі.

Апынуўшыся перад фактам брутальнага насільства расейскіх збройных сілаў над правамі беларускага народу, Усебеларускі Нацыянальны Кангрэс дня 31.12. 1917 г. адзінагалосна перадаў Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі свае неабмежаваныя паўнамоцтвы аж да новых вольных выбараў у вольнай Беларусі.

Апынуўшыся затым пад чужацкімі акупацыямі і пазбаўлены магчымасьці правесьці вольныя выбары, беларускі народ штогод маніфестуе сваю салідарнасьць і свой давер Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі ў форме нацыянальнага сьвята «25 Сакавіка» (Дзень абвешчаньня незалежнасьці БНР), якое праводзіцца патаемна ўсім беларускім народам пад расейскай акупацыяй.

Урад Беларускай Народнай Рэспублікі, знаходзячыся на выгнаньні, быў заўсёды ў кантакце з беларускім народам і заўсёды карыстаўся і карыстаецца яго поўным даверам.

У склад Ураду БНР уваходзяць усе беларускія палітычныя партыі і групіроўкі.

За рэалізацыю ідэалу БНР змагаюцца і сёньня са зброяй у руках сто тысяч беларускіх партызанаў, якія ваявалі супраць немцаў і якія надалей засталіся ў беларускіх лясах дзеля праводжаньня змаганьня з акупантамі расейскімі, ня менш жорсткімі за немцаў.

На падставе вышэйсказанага, беларускі народ у імя справядлівасьці дамагаецца павярненьня яму належных людзкіх правоў і дамагаецца ад усіх цывілізаваных народаў прызнаньня свайго законнага ўраду - Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі, ды пратэстуе супраць узурпацыі свайго імяні самазваным урадам БССР, штучна створаным Масквою і сілай накінутым беларускаму народу.

Беларускі народ дамагаецца правядзеньня вольных выбараў і ўстанаўленьня свае дзяржавы на аснове Атлантычнай Хартыі.

Прыміце, Эксцэленцыя, словы нашых найглыбейшых пачуцьцяў пашаны.

Подпіс.

версія

## ТАЙНА ЗЬНІКНЕНЬНЯ БЕЛАРУСКАГА ЗАГРАНІЧНАГА АРХІВУ

Беларускі заграпічны архіў быў створаны ў 1928 г. у сталіцы Чэхаславакіі - Празе. Яго арганізавалі беларускія палітычныя эмігранты, якія гуртаваліся вакол Рады БНР. У архіве былі сабраныя рэдкія дакументы з дзейнасьці Ураду і Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, беларускіх палітычных партый, беларускія кнігі, перыёдыка, перапіска беларускіх дзеячаў і іншыя каштоўныя матэрыялы нашай гісторыі. Аднак гэты архіў, а таксама частка асабістага архіву старшыні Рады БНР Васіля Захаркі, бясьсьледна зьніклі напрыканцы 2-й сусьветнай вайны.



Пошукам архіву займалася Ганна Сурмач, якая ў першым нумары часопіса «Беларуская мінуўшчына» за 1993 г. надрукавала першыя вынікі праведзенай работы. Сп-ня Сурмач падае некалькі варыянтаў зьнікненьня архіву: ён мог быць вывезены ў СССР, дзе яго зьнішчылі або схавалі ў сакрэтных сховішчах; архіў (або яго частка) застаўся ў Празе; яго маглі вывезьці беларускія патрыёты на Захад.

Найбольш праўдападобная версія з вывазам беларускага архіву ў СССР. Бо вядома, што ў канцы 1945- пачатку 1946 г. з Прагі ў Маскву, у дзевяці чыгуначных вагонах быў перавезены Рускі замежны архіў. Версія з вывазам архіву беларускімі патрыётамі на Захад малаверагодная. Напрыканцы вайны ўсе беларусы стараліся ўратавацца ад савецкай дзяржбясьпекі і займацца гэткім вялікім архівам не было каму. Праўда, на пачатку траўня 1945 году ў Празе знаходзіўся беларускі дэсантны батальён «Дальвіц», якім камандаваў старшыня ЦК Беларускай Незалежніцкай Партыі маёр Краёвай Абароны Усевалад Родзька. БНП астаўляла падпольле і групы сувязі ў горадзе, а Родзька, па сьведчаньні М.Зуя, часта адлучаўся па нейкіх важных справах. Але нават калі б і была спроба вывезьці архіў з горада - гэта было немагчыма, бо шлях на Захад ужо адрэзала Чырвоная Армія...

На яшчэ адну версію натрапіў выпадкова, праглядаючы старыя падшыўкі «ЛіМа». У нумары за 15 чэрвеня 1990 г. Уладзімір Калесьнік пісаў, што «пасьля вайны фонды гэтага архіва аказаліся зьнішчанымі ў выніку аварыі». Калі гэта было, дзе і пры якіх абставінах, Калесьнік не ўдакладніў. Аднак паспрабую прапанаваць сваю версію.

Беларускі заграпічны архіў з Прагі перавозілі чыгункаю дзесьці на пачатку 1946 г. Везьлі яго пад аховай праз Польшчу ў Менск. Нарком дзяржбясьпекі Л.Цанава з нецярплівасьцю чакаў яго прыбыцьця, спадзяючыся знайсьці там каштоўныя дакументы па гісторыі БНР, а таксама багатую калекцыю фотаздымкаў, так неабходных для пошуку беларускіх дзеячаў, якія памянялі прозьвішчы і аселі ў Польшчы, або засталіся на Бацькаўшчыне.

Але тут здарылася аварыя і архіў да Менску не дайшоў. Што гэта была за «аварыя» і куды падзеліся гэтыя дакументы, кадэбістам ня хочацца ўспамінаць. Непрыемная гісторыя ды неабходна назваць імя чалавека, якога яны «пахавалі» ў студзені 1945 году.

Успомнім, што адбывалася на Беларусі ў 1946 годзе. Практычна на ўсёй тэрыторыі БССР ішла партызанская вайна супраць расейска-бальшавіцкіх акупантаў. Палова цягнікоў, якія ішлі з нарабаваным з Нямеччыны, аказалася партызанскаю здабычаю. Пра гэта сьведчаць многія сьведкі і ўдзельнікі тых падзей. Частку партызанскіх сілаў, аб'яднаных у Беларускую Вызвольную Армію (БВА), кантраляваў генерал Міхась Вітушка (на пачатку 30-х ён вучыўся ў Празе). БВА актыўна дзейнічала ня толькі на Бацькаўшчыне, але і за мяжой. Агентура Вітушкі знаходзілася ў Зах.Берліне, Варшаве, Гдыні, Празе. Нельга недаацэньваць магчымасьці БВА, на ўзбраеньні якой былі радыёстанцыі, атрыманыя з Англіі. Цягнік маглі «весьці» з самай Прагі. Тут беларусы маглі атрымаць дапамогу і ад польскіх нацыянальных сілаў збройных - сваіх саюзьнікаў.

...Некалькі аддзелаў «Чорнага Ката» чакалі цягнік дзесьці каля Баранавічаў. Узарваўшы перад паравозам рэйкі, яны спынілі цягнік і перастралялі ахову. Да вагонаў былі падагнаныя загадзя падрыхтаваныя аўтамашыны, якія хутка загружаліся скрынямі. Аперацыя цягнулася ня больш за паўтары гадзіны. Машыны з каштоўным грузам накіраваліся ў бок Налібоцкай пушчы...

Гэта толькі версія. Партызаны маглі натрапіць на цягнік і выпадкова. Яны маглі і зьнішчыць увесь груз, не ўсьведамляючы яго каштоўнасьць. Маглі яны яго зьнішчыць і сьведама. Напрыклад, калі не пасьпявалі ўсяго забраць - каб не дасталося бальшавікам. Калі ж архіў трапіў у рукі генерала Вітушкі, то ён быў схаваны ў адным са шматлікіх сховішчаў у недаступным месцы, акружаным міннымі палямі. На Захад пераправіць гэты вялікі архіў Вітушка ня мог і не хацеў. Бо ўсе чакалі вайны Амерыкі з СССР, а значыць вызваленьне Беларусі было справай блізкай будучыні...

Што магло стацца з архівам пасьля арышту генерала Вітушкі? Гэбісты ад яго нічога не даведаліся і гэтую тайну Вітушка забраў з сабою.

Яшчэ раз паўтараю, што гэта толькі версія. Але шмат фактаў сьведчаць за тое, што беларускі архіў ня трапіў у рукі бальшавікоў. Няма яго і на Захадзе (Мікола Абрамчык вывез у 1943 г. у Парыж толькі частку архіву В.Захаркі). Сьлед ягоны губляецца ў беларускіх лясах...

**Ян ВЕЖАН.**

**НА ЗДЫМКУ: генерал Міхась ВІТУШКА.**

